*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 209 (1273)**
Пятніца, 9 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі — дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — +3...+5, Магілёве, Мінску, Гродне — +4...+6, Брэсце — +5...+7, Гомелі — +7...+9.

У наступныя двое сутак: 10-га — месцамі кароткачасовыя дажджы, пераважна мокры снег; 11-га — пераважна без ападкаў. Вецер заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра 10-га ўначы — -1...+4, удзень — +2...+7; 11-га ўначы 0...-5, удзень — +1...+6.



## ПУЛЬС

### Кадравыя перастаноўкі ў Міністэрстве адукацыі

**На падставе пастановы ўрада ў Міністэрстве адукацыі Беларусі праведзены шэраг кадравых перастановак.**

Першым намеснікам міністра адукацыі прызначаны Аляксандр Жук, які раней займаў пасаду першага прарэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яму таксама прысвоены першы клас служачага дзяржапарату. Ранейшы першы намеснік міністра адукацыі Барыс Іваноў прызначаны намеснікам міністра.

Ад пасады намесніка міністра вызвалены Аляксандр Купцоў — у сувязі з выхадам у адстаўку, і Алег Слука — у сувязі з пераводам на іншую працу. Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве адукацыі, новая пасада А.Слукі пакуль не вядома.

**Вольга АСІПЕНКА.**

### У кастрычніку на дарогах Мінскай вобласці загінулі 50 чалавек

**Прычынамі 40 ДТЗ сталі неасцярожнасць, неабдуманыя дзеянні і невыкананне патрабаванняў Правіл дарожнага руху.**

У выніку перавышэння хуткасці транспартных сродкаў адбылося 45 аварый. У сустрэчных сутыкненнях пацярпелі больш за 30 чалавек. 9 дарожна-транспартных здарэнняў адбыліся па віне вадзіцеляў, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Упраўленне ДАІ УУС Мінскай вобласці нагадвае, што зараз асаблівую небяспеку ўяўляюць ападкі і замаразкі, якія ўтвараюць галалёд. Пры руху хуткасць транспартных сродкаў павінна выбірацца з улікам дарожных умоў, надвор'я і магчымасці ўзнікнення небяспекі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Ад ВІЧ-інфекцыі памерлі 162 чалавекі

**На 1 лістапада бягучага года ў краіне зарэгістраваны 162 лятальныя зыходы сярод ВІЧ-інфіцыраваных, у тым ліку ад СНІДу памерлі 24 чалавекі.**

У параўнанні з папярэднім месяцам гэтыя паказчыкі выраслі на сем выпадкаў і на адзін адпаведна.

На сённяшні дзень у краіне выяўлены 3828 выпадкаў заражэння ВІЧ-інфекцыяй, што на 37 чалавек больш, чым у верасні.

Пераважная большасць ВІЧ-інфіцыраваных (84,5 працэнта) складаюць маладыя людзі ва ўзросце 15—29 гадоў. Асноўнай прычынай заражэння па-ранейшаму з'яўляецца ін'екцыйнае ўвядзенне наркатычных рэчываў, пры гэтым павялічваецца колькасць людзей, інфіцыраванне якіх адбылося ў выніку сексуальных кантактаў.

Акрамя таго, павялічваецца і колькасць дзяцей, народжаных ад ВІЧ-інфіцыраваных маці. На сённяшні дзень у краіне жыве 207 такіх дзяцей. Усяго ў Беларусі зарэгістраваны 30 ВІЧ-інфіцыраваных дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

### У Стаўбцоўскім раёне многа жалезнай руды

**Прыкладна 500 мільёнаў тон жалезнай руды ўтрымлівае Аколаўскае радовішча ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці.**

Утрыманне жалеза ў рудзе Аколаўскага радовішча складае прыкладна 28 працэнтаў. Гэта вельмі высокі паказчык для металургічнай прамысловасці.

Зараз на Аколаўскім радовішчы завяршаецца этап папярэдняй разведкі. У будучым годзе геолагі плануюць правесці дэталёвую разведку запасаў жалезнай руды, узяць яе пробы і накіраваць іх на вывучэнне ў Белгарад (Расія). На мясцовым металургічным камбінаце пробы пройдуць абагачэнне для атрымання магнетытавага канцэнтрату і вытворчасці з яго металізаваных акатышаў.

Вынікі іх плавак і тэхніка-эканамічнага абгрунтавання будаўніцтва металургічнага камбіната дазволяць вызначыць яго рэнтабельнасць. Распрацоўка Аколаўскага радовішча будзе весціся метадам шахтнай выпрацоўкі, паколькі залягаючыя на глыбінях ад 65 да 120 метраў пласты жалезнай руды крута ідуць у нетры зямлі.

З руды Аколаўскага радовішча можна атрымліваць звышбагаты магнетытавы канцэнтрат з утрыманнем жалеза да 70 працэнтаў. Вырабленыя з яго металізаваныя акатышы цалкам падыходзяць у якасці сыравіны для Беларускага металургічнага завода (Жлобін).

**Марат ГАРАВЫ.**

### Гран-пры фестывалю "Залаты шлягер" застаўся ў Беларусі

**Гран-пры і 2 тысячы долараў ЗША атрымала Таццяна Глазунова — салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.**

Лаўрэатамі першай прэміі сталі Ларыса Маскалёва (Узбекістан) і Аляксандр Панаётаў (Украіна); другую прэмію атрымалі Вольга Варвус (Малдова), Мары Мары (Югаславія) і Эмі Стамболава (Балгарыя); трэцюю — Марыюш Шабан (Польшча), Андрэ (Арменія) і Марат Сарбупееў (Казахстан).

Прызамі імя Вуячыча і глядацкіх сімпатый узнагароджаны Юрый Далькоў з Беларусі, а прыз за лепшую прэм'еру песні дастаўся югаслаўцы Мары Мары.

Прэс-цэнтр фестывалю таксама заснаваў свае прызы. Сімпатыі прэсы былі аддадзены літоўскай спявачцы Вікторыі Гечытэ. Іранічную ўзнагароду "За цяжкую працу" атрымаў старшыня журы Міхаіл Фінберг.

Усяго ў конкурсе ўзялі ўдзел 18 вакалістаў з краін СНД, Балтыі, Балгарыі, Югаславіі, Румыніі і Польшчы.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**

# Прыехаў, убачыў, настрашыў...

## Напярэдадні бальшавіцкага свята Лукашэнка наведаў Гродна

Чаканні шматтысячнага калектыву "Азота", з наведвання якога пачаўся лукашэнкаўскі прыезд у Гродна, аказаліся марнымі. Хоць і кіраўнікі прадпрыемства, і запрошаныя на сустрэчу прадстаўнікі цэха "Аміяк-4" рамонтна-механічнай вытворчасці спадзяваліся, напэўна, што Аляксандр Рыгоравіч адкажа на галоўнае для іх пытанне: чаму раней квітнеючы хімічны гігант трапіў цяпер у надзвычай цяжкае эканамічнае становішча? Рэнтабельнасць вытворчасці — адмоўная, прадпрыемства працуе з вялікімі стратамі, памяншае экспарт сваёй прадукцыі, павялічвае падатковую запазычанасць.

А.Лукашэнка на незадавальненне рабочых зрэагаваў імгненна і своеасабліва — адразу звярнуўся да генеральнага пракурора Віктара Шэймана, які і тут, на "Азоце", быў побач: "Колькі крымінальных спраў узбуджана па кіраўніцтву МТЗ? Шаснаццаць, здаецца. Крый Божа, калі і ў вас такое адбудзецца пасля адпаведнай праверкі... Застаецца спадзявацца, што не прыйдзецца мяняць кіраўніцтва "Азота", каб зрабіць вытворчасць зноў рэнтабельнай...".

Але і шэраговыя працаўнікі "Азота", якім вось такім чынам кінулі костку, усё больш разумеюць, што прадпрыемства трапіла ў фінансавую пастку не з прычыны магчымых злоўжыванняў яго кіраўніцтва і нават не з-за дрэннай, паводле меркавання Лукашэнкі, дзейнасці маркетынгавых, эканамічных службаў. "Азот" вымушаны плаціць па палітычных рахунках, разлічвацца за відавочныя хібы аграрнай палітыкі дзяржавы, якая настойліва трымае цэны на мінеральныя ўгнаенні на ўзроўні, што не дазваляе канчаткова загінуць калгасам. А гэта — ніжэй сабекошту іх вытворчасці. У выніку сёлетнія страты



"Азота" ад паставак тукаў айчыннай сельскай гаспадарцы перавысілі 12 мільярдаў рублёў.

— Сваё эканамічнае шчасце ў сельскай гаспадарцы роднай Беларусі не шукайце, — папярэдзіў Аляксандр Лукашэнка гродзенскіх хімікаў. — Запомніце гэта! Калгасы не здолеюць з вамі разлічыцца, калі мы падымем цэны на мінеральныя ўгнаенні. А вось малако і мяса стане даражэйшым. Шукайце выйсце, паратунак для сябе на знешніх рынках.

Аднак і на сусветных рынках, па словах генеральнага дырэктара аб'яднання Валерыя Лангова, не заўсёды цяпер даводзіцца гандляваць з больш-менш значным прыбыткам. Напрыклад, на рынках Паўднёва-Усходняй Азіі — зоне кантрактных інтарэсаў гродзенцаў, цэны на прадукцыю азотна-тукавай прамысловасці апошнім часам знізілася амаль удвая.

Збольшага пра неабходнасць пашырэння экспарту гаварылася і падчас другой часткі візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Гродна — на абласным гаспадарчым актыве, дзе абмяркоўваліся пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця Гродзеншчыны на 2001—2005 гады. Было слушна заўважана, што доля заходняй вобласці ў агульнарэспубліканскім аб'ёме экспарту вельмі малая — толькі 6,5 працэнта, і патрабаваў значна яе павялічыць.

Кіраўнікі прадпрыемстваў паслухмяна і моўчкі выслухалі гэты загад, выканаць які сённяшняй гродзенскай прамысловасці з яе паўсюдна зношанымі вытворчымі фондамі, у неспрыяльных умовах гаспадарання — амаль немагчыма. Дырэктарскі корпус выдатна ведае, чаго вартыя тыя працэнты росту аб'ёму прамысловай вытворчасці, што агучваліся на актыве. Што цешыцца з такога "росту", калі запасы гатовай прадукцыі на складах перасягнулі ў кастрычніку ўсялякія нормы, калі працягваецца вымыванне абаротнага капіталу, калі рэнтабельнасць вытворчасці складае ўсяго пяць працэнтаў, калі колькасць стратных прадпрыемстваў дасягнула небяспечнай мяжы, калі фонд зарплаты падтрымліваецца за кошт банкаўскіх крэдытаў, калі штогод змяншаюцца інвестыцыі ў асноўны капітал. І пералік гэтых "калі" можна працягваць бясконца.

Навошта ганарыцца гродзенскім аграрнікам самымі высокімі ў Беларусі ўраджаямі збожжа, калі вытворчасць камбікармоў паменшылася летась на 7, а сёлета — на 30 працэнтаў? А кошт камбікармоў, як адзначыў старшыня Астравецкага райвыканкама Адам Кавалько, не дазваляе весці рэнтабельную вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі. Разам з неблагімі валавымі паказчыкамі параўнальна моцнага гродзенскага АПК паўстаюць яшчэ больш цяжкія, чым у прамысловасці, эканамічныя праблемы. А што да камбікармоў, то зрабіць іх таннымі можна з дапамогай... генеральнага пракурора. "Папрасіце яго, — ці то жартам, ці сур'ёзна прапанаваў Аляксандр Лукашэнка. — Ён тут хутка здолее навесці парадак".

І ўжо не жартаваў, калі звярнуўся да колішняй сваёй тэмы — карупцыі ў органах выканаўчай улады, узгадваў прозвішчы арыштаваных прадстаўнікоў гродзенскага чынавенства. Адно прозвішча, праўда, не назваў, толькі падкрэсліў, што гэтага чыноўніка ў Гродне добра ведаюць, што ён на невядома якія сродкі здолеў набыць некалькі кватэр, падарыць сваім дзецям па аўтамабілю, вылучыўся іншымі прыкметамі ўласнага дабрабыту. І тут адбылося тое, чаго ніхто ў гэтай зале аблвыканкама не чакаў — са свайго месца падняўся Анатоль Пашкевіч, былы мэр абласнога Цэнтра і сённяшні генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Гроднахлебпрам". "Так гэта вы? — здзівіўся прэзідэнт у адказ на няўклюдную спробу Пашкевіча зняць несправядлівыя, маўляў, абвінавачванні. — Чаму вы ўпэўнены, што мае словы — пра вас, можа, я меў на ўвазе зусім іншага чыноўніка? — І кінуў Шэйману: "Праверце, калі ласка, удакладніце, калі чалавек сам аб гэтым просіць!".

**Вячаслаў БАЛАМУТ.**
**На здымках:** *віды Гродна.*
**Фота IREX/ProMedia.**

## Незалежная экспертыза

# Чым выклікана чарговая змена рыторыкі,

### або Якія два важныя крокі павінна зрабіць улада, каб выцягнуць краіну з крызісу

На афіцыйным беларускім палітычным небасхіле чарговая змена рыторыкі. На гэты раз у сферы эканомікі. Цяпер прадпрымальнікі ўжо не "вшивые блохи", а бізнесмены. На сустрэчы з дзелавымі коламі кіраўнік краіны загаварыў аб "адкрыцці шлюзаў для прадпрымальніцтва", аб гатоўнасці выдаць гарантыі для вяртання грошай з-за мяжы, аб акцыяніраванні прадпрыемстваў...

Рынкавая рыторыка — хутчэй рэакцыя на ціск абставін, чым разуменне моманту. Амаль у той самы час, як Лукашэнка сыпаў згаданымі тэрмінамі на сустрэчы з дзелавымі коламі краіны, наш новы прэм'ер-міністр цікавіўся ў Кіеве, чым выклікана падзенне гандлю паміж Беларуссю і Украінай, на што кіеўскія суразмоўцы адкрытым тэкстам тлумачылі: "У нас жа 60 працэнтаў прамысловасці ўжо ў руках прыватнага сектара, а ў банкаўскай сферы — аж 90 працэнтаў. Вашыя ж прадпрыемствы дзяржаўныя, неплацежаздольныя. Як жа развіваць з вамі гандаль?" У такім накірунку, дарэчы, цісне і Расія.

А таму пацешнымі выглядаюць нахвальванні "новага курсу", якія сыплюцца з вуснаў урадаўцаў, прыдворных прафесараў і палатнікаў. Каму-каму, а ім жа павінна быць вядома, "адкуль растуць ногі", як і тое, што за падобнай славеснай рыторыкай сур'ёзных канкрэтных спраў не прадбачыцца. І вось чаму.

Так, змяншэнне падатковага прэсу — справа вельмі важная і вельмі неабходная. Крок у такім накірунку сапраўды можа паспрыяць развіццю бізнесу. Але ці магчыма гэта ў нашых умовах? Калі зменшыць падаткі, дык дзе тады ўзяць сродкі, каб карміць распухлыя сілавыя структуры. Значыць, іх трэба моцна скарачаць. А вось аб гэтым нічога не гаворыцца.

Любому нармальнаму чалавеку зразумела, што без буйных інвестыцый з крызісу нам не выкарабкацца. Замежны капітал ідзе толькі туды, дзе бізнес сумленны, дзе добрае і стабільнае заканадаўства, дзе дэмакратыя, дзе паважаюць правы чалавека. Але ці здольныя ўлады Беларусі развярнуцца на 180 градусаў да рынку і дэмакратыі?

У даволі "интересное положение" трапляе Беларусь у сувязі з уваходжаннем Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Паколькі наша краіна сваім саюзам з Расіяй, па сутнасці, становіцца "прычапным вагонам", ёй нічога не застаецца, як каціцца следам за ўсходняй суседкай. Але туды, у Сусветную гандлёвую арганізацыю, прымаюць толькі дзяржавы з рынкавай эканомікай. Так што прыйдзецца альбо станавіцца звычайным вагонам расійскага цягніка, ці, дакладней, суб'ектам Расійскай Федэрацыі, альбо адчапляцца ад яе.

Калі Рыгоравіч сапраўды хоча ажывіць эканоміку і палепшыць дабрабыт людзей, дык варта прыняць неардынарныя, лёсавызначальныя рашэнні. Менавіта яны дапамогуць вырашыць праблемы, што неадольнай сцяной паўстаюць перад краінай. Якія ж крокі павінны быць?

Радыкальным і самым лепшым рашэннем была б добраахвотная адстаўка Лукашэнкі. Бо сваю "гістарычную ролю" ён ужо выканаў: зразумеў, што пошук нейкага міфічнага "трэцяга беларускага шляху" праваліўся, бо развіццё ўсяго чалавецтва ідзе ў адным рэчышчы. Толькі пасля зыходжання з крэсла першай асобы свет можа пасапраўднаму актыўна павярнуцца да Беларусі.

Зразумела, што на падобны мужны мужчынскі крок Аляксандр Рыгоравіч не здольны. У такім разе трэба шукаць вельмі складаны варыянт, пры якім былі б "і авечкі цэлыя, і ваўкі накормленыя". Можна неадкладна зрабіць два важныя крокі:

**Першы.** Прынародна аб'явіць, што новы пяцігадовы тэрмін яго прэзідэнцтва — апошні для яго, як гэта прадугледжана Канстытуцыяй. Што ён не будзе болей мяняць Канстытуцыю дзеля асабістай выгады, не будзе праводзіць чарговы псеўдарэферэндум аб змене Асноўнага закона з тым, каб яму можна было балатавацца ў прэзідэнты бясконца.

**Другі крок.** Пашырэнне паўнамоцтваў урада з тым, каб ён стаў сапраўдным урадам, і стварэнне Кабінета міністраў нацыянальнай згоды, у які ўвайшлі б прадстаўнікі ўсіх вядучых сіл краіны. Яго мог бы ўзначаліць той жа генеральны дырэктар МТЗ Лявонаў. Чалавек, які мае багаты вопыт работы з людзьмі, ведае вытворчасць, эканоміку, знаёмы з кіраўнікамі многіх краін...

Такі ўрад нацыянальнага даверу атрымаў бы падтрымку міжнароднага супольніцтва і бізнесу. Толькі пры ім можна разлічваць на буйныя інвестыцыі з перадавых краін Еўропы і свету, а значыць, і на выхад з крызісу.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Мать и жену Д.Завадского лишили права допросить в зале суда похитителя Димы

На судебный процесс в качестве представителя жены похищенного российского телеоператора допущен адвокат Сергей Цурко.

Можно сказать, что для Светланы Михайловны на данном этапе судебного разбирательства справедливость восторжествовала. Но в тот же день суд лишил права на защиту обвиняемого Игнатовича: по ходатайству прокурора его удалили из зала суда. И теперь ни потерпевшие, ни их адвокаты не смогут задать вопросы главарю вооруженной группы, обвиняемому в вымогательстве, разбое, убийстве, похищении людей.

Похоже, власти испугались, что Валерий Игнатович все же заговорит на суде. А это, несмотря даже на закрытость суда, может стать достоянием общественности. Скрывать же властям, похоже, есть что. Следствие, обвиняя Игнатовича в похищении оператора ОРТ, обошло молчанием вопрос о дальнейшей судьбе Д.Завадского. Судят лишь за то, что похитили. А что с Димой делали после этого — тайна за семью печатями. И объяснение тому, на мой взгляд, заключается в намерении властей скрыть имя заказчика преступного деяния.

Пока что суд рассматривает (прошло уже восемь заседаний) чисто уголовные эпизоды, инкриминируемые группе Игнатовича. Но когда в ходе судебного разбирательства подойдут к последнему эпизоду этого явно политического похищения, потерпевшие жена и мать российского телеоператора наизбежно зададут бывшему сотруднику "президентской гвардии" вопрос: "Где Дима?". Увы, отвечать на него в зале суда будет некому.

По неофициальной информации, Валерия Игнатовича удалили из зала суда после того, как тот обратился к суду с ходатайством об отводе прокурору. Основание: будто в ходе предварительного следствия этот прокурор угрожал Игнатовичу, добиваясь от него в СИЗО признательных показаний.

Суд данное ходатайство обвиняемого отклонил.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**



## ЭХО

# ДОШЛО?

### Беларусь впервые заявляет о поддержке антитеррористической коалиции

**Как стало известно, на конференции, посвященной борьбе с терроризмом, которая проходила в Варшаве, руководитель Администрации президента Беларуси Урал Латыпов официально заявил о том, что "Беларусь поддерживает антитеррористические действия сил США и Великобритании в Афганистане". Как сообщила в четверг польская газета "Выборча", накануне конференции мировая общественность "надеялась, что представитель Беларуси или официально поддержит, или выступит против антитеррористических действий".**

Власти Беларуси, как известно, никогда не отличались быстротой мышления — особенно в случаях, когда появлялась угроза их персональным или, что называется, "шкурным" интересам. Матушка-Россия давным-давно определилась со своей позицией и встала на сторону антитеррористической коалиции, а ее лидер Владимир Путин недавно в интервью одной из американских телекомпаний даже признался, что "чувствует вину за то, что российские спецслужбы вместе с американскими не смогли вовремя предотвратить теракты в Нью-Йорке и Вашингтоне 11 сентября". И только официальный Минск дремал, как пшеницу (простите, танки) продавши.

Что же вдруг произошло в Варшаве? До руководства Беларуси наконец-то ДОШЛО, что затягивать дальше неопределенность своей позиции по военному конфликту "США — Афганистан" не просто политически непродуманно, но и элементарно опасно? Или варшавская премьера господина Латыпова — это всего лишь наказуемая в будущем его личная инициатива?

Учитывая огромный чиновничий опыт Урала Рамдраковича и подкаблучную систему нашего государственного устройства, можно предположить, что команда задобрить Буша и Блэра шла с самого верха. Интересно, как на нее прореагируют возможные ближневосточные покупатели белорусского оружия? А может, причина разговорчивости президентского чиновника проще: вся нормальная боевая техника уже продана, а правитель наш активно включился в поиски новых источников дохода?

**Александр СИЛИЧ.**



*Американский спецназ во всей красе.*

**Фото с официального сайта Пентагона.**

## ДИАЛОГ

*Ярослав РОМАНЧУК:*

# "Мы предлагаем правительству сотрудничество..."

**Как сообщили в пресс-центре Объединенной гражданской партии (ОГП), "с тех пор, как правительство Геннадия Новицкого получило приглашение руководства ОГП вместе обсудить вопрос использования разработанной под ее эгидой "Программы социально-экономических реформ для Беларуси", минуло уже более месяца. Но никакого ответа до сих пор не получено".**

Комментирует события вокруг "Программы..." один из ее авторов, заместитель председателя ОГП Ярослав Романчук:

— На мой взгляд, в правительстве нет сейчас нормального интеллектуального поля, способного выдвинуть альтернативу нашей программе. Поэтому мы и предлагаем организовать встречу с группой экспертов, работавших над ней, чтобы еще раз поговорить о болезненных проблемах, стоящих перед Беларусью. Ведь даже председатель комиссии Палаты представителей по банковским кредитам Ваганов говорит, что Беларусь в феврале-марте может оказаться на грани дефолта как страна! Это значит, что крайне осложнится ситуация с выплатой зарплат бюджетникам, равно как и пенсий, пособий. А я уверен — профилактика болезни всегда дешевле и эффективнее, чем лечение этой болезни в ее критической стадии. Белорусская же экономика находится именно в таком состоянии.



Сегодня мы предлагаем правительству такую форму сотрудничества не ради каких-то политических дивидендов, не для того, чтобы показать Лукашенко, что мы что-то можем. Просто надо спасать реальный сектор экономики и думать о том, что будет с нашими людьми через полгода-год.

**— Однако правительство до сих пор никак не реагирует, хотя не секрет, что многие высокопоставленные чиновники весьма заинтересованы в диалоге. Ждут "отмашки" Лукашенко?**

— Это их проблема, вопрос их профессионализма. Например, если вы обращаетесь к врачу, вас меньше всего должно волновать, какие у него политические либо религиозные убеждения. Вам важнее, насколько он состоятелен как профессионал. Его задача — поставить вам диагноз и определить, как вас лечить. У нас же в верхах ситуация совершенно абсурдная: люди, которые должны вроде бы разбираться в макроэкономике (почему их, собственно, и взяли на столь ответственную работу), ждут, что сам "пациент" скажет им, какая у него хворь и как ему нравится рекомендуемый курс лечения. Это ставит крест на профессиональной репутации тех, кто работает в правительстве или ассоциируется с правительством.

**Алена ДАШКЕВИЧ.**

ПУТЕВЫЕ ЗАМЕТКИ

# Германия состоятельная и очаровательная

(*Окончание. Начало в №№204, 206, 207, 208.*)

**Больше нет отдельно взятых капиталистической Германии — ФРГ, социалистической — ГДР, западного и восточного Берлина. Есть единая Германия и один Берлин. Вот уже более десяти лет немцы живут в едином государстве — Федеративной Республике Германия. А от берлинской стены остался лишь небольшой фрагмент длиной чуть более километра. Это уже музейный экпонат.**

**Германия — страна, давшая миру великого Людвига ван Бетховена, чудесное баварское пиво и торговую марку “Мерседес”. Германия — это теория относительности Эйнштейна, это “Скорпионз”, это “Капитал” Маркса...**

### Без границ

Субъекту, твердо решившему покинуть на время Минск и отправиться в западном направлении, придется потерпеть ожидание только на двух границах — белорусско-польской и польско-германской.

Германия — член Европейского Союза и шенгенских соглашений. А это значит, что никаких таможенных пунктов и даже символических шлагбаумов между Германией, Францией, Бельгией, Голландией, Испанией, Люксебмургом и т. д. не существует. Невнимательный автопутешественник может непроизвольно покинуть пределы Германии и оказаться в Голландии, а затем через Францию и Люксембург вновь вернуться назад на родину немцев.

Рекомендую в таких случаях для определения своей диспозиции следить за номерами автомашин, которые будут доминировать на трассе, а также за языком, на котором будут написаны дорожные указатели: в Германии они будут, естественно, на немецком, во Франции, южной части Бельгии и в Люксембурге — на французском, в Голландии и северной части Бельгии — на голландском. И еще: в Германии дороги не освещаются ночью, Бельгия же, к примеру, опутала сетью осветительных столбов все (!) свои трассы.

### Белорусский батюшка в Потсдаме

На окраине Потсдама, неподалеку от Замка Цицилиенхоф, где в 1945 году проходил послевоенный раздел мира на исторической потсдамской конференции, расположилась русская православная церковь. Потсдамская церковь — первый православный храм в Германии, она была построена в 1826 году по распоряжению русского царя и прусского короля. После второй мировой войны новые немецкие большевики забросили храм, его окрестности заросли высоким бурьяном.

После объединения Германии и прихода новой власти церковь была реставрирована, стала принимать прихожан. Основная их часть — потомки русских эмигрантов, поселившихся в так называемой “русской колонии Александровка” на окраине Потсдама.

Александровка удивляет высокими русскими хатами с резными ставнями. Однако, как утверждают местные жители, практически никто в Александровке уже не говорит по-русски: ассимиляция сделала свое дело.

Настоятелем в церкви служит отец Анатолий Коляда из Минска. Застать его, к сожалению, не удалось: матушка сказала, что отец уехал “по делам в Берлин”, провела нас с экскурсией по храму.

Многое в церкви говорит о Беларуси: на одной из стен развешаны фотографии из белорусской столицы. Кроме того, в приходе организован сбор средств для Дома милосердия в Минске.

### Дом, семья и дойчмарка — три кита немецких ценностей

Дом — так в Кельне называют самый известный не только в Германии, но и во всей Европе собор. Дом — это еще и самое дорогое понятие для каждого немца. Вы можете приехать на самый удаленный хутор, в самую маленькую немецкую деревню, но вы нигде не увидите обветшалой хатки, грязных бревен или неухоженной, растоптанной клумбы. Везде — аккуратненькие заборчики, подстриженные газончики, свежевыкрашенные стены, отлакированные крыши. Если немец не очень богат, его дом — небольшая, но с любовью отреставрированная под старину “мазанка”. Если состоятелен, то наверняка его “каравеллу” из стекла и бетона можно будет увидеть за десять километров.

Немцы, как правило, предпочитают работать в крупных городах, где высокие зарплаты, а жить где-нибудь в провинции в собственных домах. Для молодежи создается много возможностей получить жилье в кредит, да и родители очень часто помогают: уже к двадцати годам молодой гражданин Германии, как правило, имеет личный автомобиль и свою квартиру — на худой конец арендованную.

Третий кит национальной гордости немцев — их денежная единица — дойчмарка. Если вы собрались приобрести в Германии автомобиль или холодильник, не старайтесь удивить продавца наличием у вас американских долларов или монгольских тугриков: факт наличия у вас иностранной валюты на немца не произведет абсолютно никакого впечатления. Он, вероятнее всего, недовольно фыркнет в ответ и подскажет, где находится ближайший обменный пункт. И сделает он это не потому, что боится какой-нибудь налоговой проверки, а просто потому, что любит свою родную немецкую дойчмарку.

А раз любит, значит, уважает...

Что творится в душе немца, у которого отбирают его святыню с 1 января 2002 года, а взамен вручают евро — представить несложно. Наверное, это что-то среднее между морским штормом и испанской корридой.

### Послесловие

Если бы меня спросили, что самое поразительное и очаровывающее в Германии, то я бы сказал, что это, скорее всего, даже не высокое экономическое благосостояние ее граждан и не “особый немецкий порядок”, а удивительная, завораживающая красота этой страны.

Восхитительные природные ландшафты, чистые, аккуратные маленькие города и деревни, элегантные и разноцветные мегаполисы, идеальные дороги, приветливые немцы, каждый из которых обязательно улыбнется в ответ на вашу улыбку...

**Александр СИЛИЧ.**
**Фото автора.**

*В будущее — с любовью.*

**P.S.** *Автор благодарит информационный центр IBB и лично Виктора Федоровича Балакирева за возможность участвовать в одной из образовательных программ центра, пройти стажировку в крупнейшей газете земли Северный Рейн-Вестфалия “Кельнер Штадт Анцайгер”, а также посетить и прочувствовать Германию.*



*Германские березки.*



*Боннская базилика.*

ДУХОЎНЫ СКАРБ

*Энцыклапедыя “Народнай волі”, выпуск №29*

# Якуб Наркевіч-Ёдка

## “Электрычны” чалавек з Над-Нёмана

Не сумняваюся, што пераважная большасць на пытанне, калі было адкрыта радыё, упэўнена адкажуць: 7 мая 1895 года. А некаторыя пры гэтым згадаюць і прозвішча першаадкрывальніка — Аляксандр Папоў.

З імі нельга не пагадзіцца. Пры ўмове, праўда, калі прытрымлівацца афіцыйнай версіі. На самай жа справе права першаадкрыцця тут належыць нашаму земляку Якубу Наркевічу-Ёдку, які значна апярэдзіў А.Папова, рэгіструючы навальнічныя разрады пры дапамозе... “радыёпрыёмніка”. Канечне, прыбор, асноўнай часткай якога з’яўлялася звычайная тэлефонная трубка, назваць так можна ўмоўна. Тым не менш разрады фіксаваліся на адлегласці ў межах 100 кіламетраў ад маёнтка Над-Нёман, дзе і праводзіліся доследы.



У назве Над-Нёман, хоць яна крыху і нечаканая, нічога дзіўнага. Проста яшчэ адно пацвярджэнне, наколькі народ умее даваць населеным пунктам арыгінальныя назвы. Палац Я.Наркевіча-Ёдкі знаходзіўся на правым, узвышаным беразе ракі Нёман, таму і называўся маёнтак Над-Нёман. Сёння гэта на мяжы Уздзенскага і Капыльскага раёнаў.

Спачатку Над-Нёманам валодаў Атон Наркевіч, які паходзіў ад старажытнага шляхецкага роду, пачатак якому паклаў лідскі баярын Марцін Ёдка. Атону Ануфрыевічу належалі многія землі ў былых Ігуменскім і Слуцкім паветах. Яго ўладанні яшчэ больш павялічыліся, калі ажаніўся на Анэлі Эстка, бацькі якой аддалі дачцэ ў пасаг маёнтак Турын (цяпер вёска ў Пухавіцкім раёне). У Турыне ў маладой сям’і 9 студзеня 1848 года і з’явіўся на свет першынец, якому радасныя бацькі далі імя Якуб.

Пачатковую адукацыю Якуб Наркевіч-Ёдка, хутчэй за ўсё, атрымаў дома. Вучылі яго запрошаныя на дом настаўнікі, а таксама маці Анэля Якаўлеўна, якая была чалавекам усебакова развітым і адукаваным. Аднак у сваіх захапленнях аддавала перавагу музыцы. Гэта не магло не аказаць уплыву і на развіццё сына. Іграць на фартэпіяна Якуб пачаў яшчэ ў маленстве. Калі яго аддалі ў Мінскую губернскую гімназію (скончыў яе ў 1865 годзе), заняткі гэтыя прадоўжыў. Праявіў свае здольнасці і як кампазітар, знаўца музыкі. Па некаторых звестках, нават пазней вучыўся ў Парыжскай кансерваторыі. Дакладна можна сказаць, што пасля заканчэння гімназіі шмат падарожнічаў, даючы прыватныя канцэрты.

Калі ў 1868 годзе вярнуўся ў Расію, вёў курс тэорыі музыкі ў жаночай Марыінска-Ярмолаўскай школе. Праўда, рабіў гэта па сумяшчальніцтве, бо асноўная пасада была — службовец I разраду Маскоўскага дваранскага сходу. Жыццёвы выбар быў зроблены. Заставалася аддаць перавагу нейкаму аднаму пэўнаму занятку.

Я.Наркевіч-Ёдка як быццам спыніўся на музыцы. Прынамсі, калі чарговы раз паехаў за мяжу, не забываў павышаць сваё майстэрства менавіта ў гэтым накірунку. Ды і калі пачаліся падзеі Парыжскай камуны, таксама жыў за кошт урокаў музыкі. Хоць ёсць звесткі, што ў тым жа Парыжы вучыўся на медыцынскім факультэце ў Сарбоне, перад гэтым наведваў лекцыі ў Інстытуце медыцыны ў Фларэнцыі. Даследчыкі не адмаўляюць і заняткаў Я.Наркевіча-Ёдкі ў навучальных установах Вены.

У 1872 годзе вырашыў зноў вярнуцца на радзіму. Вырашыў канчаткова для сябе — яго месца на Беларусі. Тады ж і з’явілася жаданне прысвяціць сябе навуцы. У маёнтку Атонава (сёння вёска Сінячова ў Капыльскім раёне) пабудаваў метэаралагічную станцыю, якую пазней перанёс у Над-Нёман, дзе і сам стала пасяліўся. Быў ужо чалавекам жанатым, упадабаў Алену Пясляк з суседняга маёнтка Мохарты. З’явіліся дзеці.

У Над-Нёмане набылі размах навуковыя эксперыменты. Умовы тут былі надзіва спрыяльныя. На беразе знаходзіўся вялікі прыгожы палац. Узведзены яшчэ ў XVII стагоддзі ў стылі ранняга барока, ён пасля перабудоўваўся. Даводзілася ўсё да ладу і тады, калі галоўным гаспадаром у ім стаў Якуб Атонавіч.

Цэнтральная частка дома была двухпавярховай. Над будынкам узвышалася 27-метровая вежа, на якой Я.Наркевіч-Ёдка размясціў антэну. Падвал жа дома нагадваў навуковую лабараторыю даследчага інстытута. Тыя з вучоных, каму давялося пабываць у Над-Нёмане, не хавалі захаплення ні ад палаца, ні ад лабараторыі. А што ўжо казаць пра эксперыменты, доследы?! Усё гэта рабілася ў рэчышчы найноўшых накірункаў навукі. Усё было падпарадкавана пошуку і яшчэ раз пошуку.

Свае шматлікія доследы Я.Наркевіч-Ёдка праводзіў пры дапамозе так званай шпулі Румкарфа. Прыбор гэты названы па прозвішчы нямецкага вучонага, які сканструяваў яго ў 1852 годзе. Пры дапамозе шпулі Румкарфа лёгка пастаянны ці пераменны ток ператварыць з нізкага напружання ў пераменны ток высокага напружання. Для сілкавання прыбора Якуб Атонавіч выкарыстоўваў гальванічныя элементы.

Вядома, прымаў захады, каб вопыты праходзілі бяспечна. Хоць, як сведчылі тыя, каму давялося пабываць у яго лабараторыі, далёка не кожны, запрошаны Я.Наркевічам-Ёдкам на эксперыменты, згаджаўся прымаць у іх удзел. Асабліва палохала недасведчаных тое, што звычайна ў час вопытаў чуўся моцны трэск электрычных разрадаў, з’яўляліся яркія ўспышкі. Малюнак зусім не для слабанервовых. Доследы да ўсяго праводзіліся ноччу ці позна вечарам. Трэск, воблiскі, што нагадваюць маланку...

Паступова Я.Наркевіч-Ёдка прыйшоў да высновы, якую занатаваў у блакноце: “Увесь свет акружаны і напоўнены электрычнасцю. Кожны чалавек — гэта па сутнасці электрычная машына, якая, з аднаго боку, выпрацоўвае электрычнасць (адзін яе від — жывёльная электрычнасць) і аддае яе ў навакольнае асяроддзе, а з другога боку, паглынае электрычнасць (другі яе від — атмасферная электрычнасць) з навакольнага асяроддзя. Такім чынам, у арганізме чалавека адбываецца пастаянны абмен паміж двума відамі электрычнасці і прытым у кожным стане паасобку напружанне электрычнасці ў арганізме рознае”.

Я.Наркевіч-Ёдка не задаволіўся тым, каб даказаць, што чалавек здатны выпрацоўваць электрычнасць. У сваіх эксперыментах ён пайшоў далей, адштурхоўваючыся ад першапачатковых, зыходных вынікаў.

Пачаў рабіць электраграфічныя здымкі, выкарыстоўваючы дзеля гэтага фотапласціны. І не толькі адбіткі раслін атрымліваў, вывучаючы будову іх сцябла, лісця. Эксперыментаваў і над рознымі ўчасткамі чалавечага цела.

Тут якраз і напаткала яго сапраўднае адкрыццё. Аказалася, што малюнак, які адбіваўся пры гэтым, рэльефам сваім залежаў ад таго, здаровы чалавек ці хворы. На адлюстраванне ўплываў і душэўны стан пацыентаў. Значыць — Я.Наркевіч-Ёдка не хаваў радасці — электраграфічныя метады, апрабаваныя ім, у далейшым можна з поспехам выкарыстоўваць для дыягностыкі хвароб. Каб загадзя даведацца, што чакае чалавека наперадзе, дзе яго падсцерагае небяспека.

З вынікам даследаванняў неўзабаве пазнаёміў камісію спецыялістаў Пецярбургскага інстытута эксперыментальнай медыцыны, членам-супрацоўнікам якога з’яўляўся. Пра іх расказаў і на навуковай канферэнцыі па электраграфіі і электрафізіялогіі, праведзенай Пецярбургскім універсітэтам. Пра адкрыццё электраграфічнага метаду дыягностыкі хвароб дружна загаварыла прэса, аднёсшы яго да “нараджэння новай навукі”.

Адбылося гэта ў 1892 годзе. А двума гадамі назад Я.Наркевіч-Ёдка і адкрыў па сутнасці радыё, ды не паклапаціўся, каб належным чынам звярнуць на гэта ўвагу. А вось у 1889 годзе, выступаючы на чарговым пасяджэнні Метэаралагічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства (працаваў у асноўным вясной і летам, а зімой наведваўся ў Пецярбург, Маскву, выязджаў за мяжу, знаёмячы навуковую грамадскасць са сваімі адкрыццямі, наладжваючы адпаведныя сувязі), ён паказаў уласны прыбор “лізіметр”, з дапамогай якога можна было вызначыць вільготнасць глебы на глыбіні да трох метраў. Пры тым, як высветлілася, вынікі атрымаліся вельмі дакладныя. Інакш і быць не магло. Перш чым везці “лізіметр” у сталіцу, Якуб Атонавіч апрабаваў яго на ўласных палетках.

У 1892 годзе Я.Наркевіч-Ёдка адкрыў у Над-Нёмане ўласны санаторый, каб лячыць у ім нервовых і, як гаварыў сам, слабагрудных хворых. На магчымасць заняцца ўрачэбнай практыкай яго падштурхнулі новыя паспяховыя эксперыменты. Вынікі, атрыманыя неўзабаве, пераўзышлі ўсе чаканні.

Фотаграфічная пласцінка ставілася эмульсійным бокам да скуры хворага пад трэцім пазванком. Да яе набліжалася спецыяльная кандэнсатарная трубка, што ўяўляла сабой звычайную шкляную прабірку з падкісленай вадой, у якой размяшчаўся металічны электрод. Чым больш занядужаў чалавек, тым слабейшым назіраўся адбітак на пласцінцы. Падчас жа вылечвання хворага, пры чарговых здымках пласцінка засвечвалася, павялічваўся паток іскраў і адначасова ўзрастала іх інтэнсіўнасць.

Значыць... Спачатку Якуб Атонавіч і паверыць не мог, што гэтае смелае яго меркаванне пацвердзіцца. Аднак, сказаўшы “а”, мусіў гаварыць і “б”. Нічога не зробіш — навука патрабуе ахвяр. Ён чакаў... Страшным было гэтае чаканне, але без гэтага Я.Наркевіч-Ёдка абысціся не мог. Правільнасць яго высноў мог пацвердзіць толькі... мёртвы чалавек.

Праз які тыдзень знайшоўся бедалага, ўратаваць якога, нягледзячы на ўсе намаганні, не ўдалося. Якуб Атонавіч тым не менш паднёс пласцінку з кандэнсатарнай трубкай да яго цела і... Не можа быць?! Прысутнічалі разрады. Вельмі слабыя, праўда, але заўважаліся. Не спяшаўся спыняць эксперымент, бо здагадваўся, што чакае наперадзе. Так і атрымалася. З кожнай новай праверкай разрады слабелі, аднак яны затухалі паступова. Не адна гадзіна спатрэбілася, каб ужо на чарговай пласцінцы зусім не засталося адбітка.

Пры дапамозе такой пласцінкі і трубкі — Якуб Атонавіч ужо ніколькі не сумняваўся — лёгка можна адрозніць клінічную смерць ад фізічнай. А пры клінічнай, магчыма, каго-небудзь і ўдасца яшчэ выратаваць.

Ішоў, паўтараю, 1892 год, а ў маёнтку праводзіліся доследы, якія па навуковай значнасці набліжаліся да тых, што праводзіліся ў прэстыжных навуковых цэнтрах не толькі царскай Расіі, а і ўсяго свету. Адарваны ад сталіцы, Я.Наркевіч-Ёдка ніколі не адчуваў сябе перыферыйным даследчыкам, бо глядзеў на акаляючы свет вачыма чалавека, упэўненага ў значнасці ўласнай справы, бо валодаў не проста талентам, а талентам празорцы, а толькі такія людзі, як паказвае гістарычны вопыт, і здатны на значныя адкрыцці. І зусім не важна ўжо, дзе іх пастаяннае прыстанішча — вялікі горад ці такі вось родавы маёнтак, у якім жыў Якуб Атонавіч...

У 1893 годзе наведаў вядучыя навуковыя цэнтры Заходняй Еўропы. З лекцыямі выступаў у Берліне, Вене, Парыжы, Празе, Фларэнцыі. А расказаць яму вучоным свяцілам было пра што. І тыя ўважліва слухалі яго паведамленні, здзіўляючыся, наколькі смела эксперыментуе, як настойліва ідзе да свайго чарговага адкрыцця.

Вынайшаў Я.Наркевіч-Ёдка і громаадвод. Менавіта громаадвод, а не маланкаадвод. І зусім простай канструкцыі. На драўлянай вежы вышынёй каля 12 метраў замацоўваўся медны стрыжань, які злучаўся дротам (ці нават саламянай вяроўкай!) з цынкавай пласцінай, закапанай у зямлі. Громаадводы размяшчаліся на палетках у шахматным парадку — так, каб адзін прыпадаў прыкладна на два гектары плошчы. Палі Я.Наркевіча-Ёдкі ніколі не пабіваліся градам, вырашчаны ўраджай цалкам захоўваўся. А прачытаў, што ў свеце вядуцца доследы па вывучэнні ўплыву току на жыццё раслін, падключыўся да гэтых эксперыментаў. Расліны, апрацаваныя электрычным токам, лепш узыходзілі, хутчэй раслі, давалі большы ўраджай.

З лёгкай рукі парыжскіх газетчыкаў Я.Наркевіча-Ёдку назвалі “электрычным” чалавекам. Але ён не абмяжоўваўся электрычнасцю. Для лячэння хворых выкарыстоўваў спецыяльную гімнастыку, знайшоў мінеральную ваду, стварыў і кумысавую лячэбніцу, якой карысталіся 50 чалавек. За лета раздаваў да двух тысяч бутэлек кумысу бясплатна.

У Расіі нашага земляка ведалі і шанавалі. На той час па папулярнасці яго параўноўвалі з Л.Пастэрам у Францыі. А за мяжой — не меншая пашана: член-карэспандэнт Парыжскага медыцынскага, фізічнага, матэматычнага таварыстваў, член Італьянскага медыкапсіхалагічнага таварыства, доктар Венскага медыцынскага таварыства... У 1896 годзе ў Парыжы была выдадзена кніга пра яго жыццё і дзейнасць.

Здароўем жа пахваліцца не мог. Але, хоць урачы і папярэджвалі, каб працаваў менш, не зважаў на іх турботы. Не паслухаўся і зімой 1905 года паехаў у Італію. У Вене стала дрэнна. Мясцовыя ўрачы сказалі, што патрэбен спакой. Выклікалі жонку. На яе руках і памёр 19 лютага 1905 года. Вечны спакой знайшоў на родавым могільніку ў Над-Нёмане.

Колішні палац сёння разбураны. Але хацелася б верыць, што дажывём да таго часу, калі ён будзе рэстаўраваны. Якуб Наркевіч-Ёдка заслугоўвае таго, каб пра яго не толькі памяталі, а і ашчадна ставіліся да ўсяго, што нагадвае пра гэтага выдатнага чалавека.

**Міхась ЯНОВІЧ.**

**Пра Я.Наркевіча-Ёдку можна прачытаць:**

*Наркевич-Иодко Я.О. (1847—1905). Библиографический указатель. Мн., 1988.*

*Грыбкоўскі В., Гапоненка В., Кісялёў У. Прафесар электраграфіі і магнетызму. Мн., 1988.*

ДАЙДЖЕСТ

### Кавалерийские отряды Северного альянса атакуют танки талибов



*Вперед, на танки!*

Генерал морской пехоты США Питер Пэйс, заместитель главы объединенного Комитета начальников штабов сообщил, что пилоты бомбардировщиков ВВС США во время боевых вылетов наблюдали под Мазари-Шарифом, как конные отряды Северного альянса атаковали танки и тяжеловооруженную пехоту талибов. Пэйс назвал солдат Северного альянса “опасными противниками” талибов. Представители Министерства обороны США считают, что в Афганистане, с его гористыми территориями и практически полным отсутствием дорог, использование лошадей может давать некоторые преимущества.

Один из экспертов описал силы Северного альянса как “самую легкую пехоту, которая способна вести боевые действия с небольшим запасом продовольствия и боеприпасов, используя лошадей для повышения мобильности своих отрядов; что выгодно отличает ее от подразделений, использующих технику, которой необходимо постоянное снабжение горючим и запасными частями”.

### Астрономы снизили вероятность столкновения Земли с астероидом

Английские астрономы сообщили результаты последних исследований в области оценки вероятности попадания в Землю большого астероида. На протяжении всего предстоящего века данная величина оценена учеными в 1/5000. Ранее же она оценивалась в 1/1500. Данные сведения были распространены командой ученых Принстонского университета, возглавляемой Желшкой Ивежичем. Они опубликованы в ноябрьском выпуске журнала Astronomical Journal.

Считается, что для уничтожения четверти населения Земли достаточно столкновения нашей планеты с астероидом диаметром в 1 км. Ученые также считают, что подобные катаклизмы происходят с определенной периодичностью — раз в 100 миллионов лет. Всего в число крупных астероидов в нашей солнечной системе оценено в 700 тысяч.

### Токио и Пекин не смогли разрешить торговый диспут

Власти Китая и Японии после проведения двухдневных торговых переговоров не смогли прийти к консенсусу в давнем торговом споре. Речь идет о том, что в апреле текущего года Токио наложило санкции на некоторые импортируемые из Китая продовольственные товары и тростник, используемый при производстве татами. В ответ в июле Пекин ввел 100-процентные тарифы на японские автомобили, мобильные телефоны и кондиционеры воздуха. Дипломатические источники сообщили между тем, что разговоры будут продолжены.

### Из-за утечки радиации остановлен реактор в Хамаоке

Из-за утечки пара был остановлен ядерный реактор в Хамаоке (японская префектура Сидзуока). 540000-киловаттный реактор был остановлен еше в среду. Известно, что АЭС в Хамаоке принадлежит компании Chubu Electric Power. В компании сообщили, что в попавшем в воздух паре содержалось небольшое количество радиации, однако радиация не попала за пределы станции. В результате инцидента ранений и травм никто не получил. Когда возобновится работа реактора, неизвестно.

### Буш намерен сократить американский запас ядерных вооружений

Буш сказал, что принял решение, определяющее количество ядерных боеголовок, необходимых для защиты Соединенных Штатов, однако не назвал точной цифры. Специалисты Министерства обороны США считают, что для обеспечения своей безопасности США необходимо от 1800 до 2250 единиц ядерного оружия, в то время как сейчас его запасы составляют примерно 7000 единиц.

### Блэр: после авиаударов в Афганистане будет использована новая тактика

Премьер-министр Великобритании Тони Блэр в ходе проведения совместной пресс-конференции с Джорджем Бушем в Вашингтоне заявил, что одних авиаударов по территории Афганистана для победы над “Талибаном” недостаточно, и что в будущем будут использованы другие методы. Также Блэр отметил, что не стоит говорить об ослаблении единства в международной антитеррористической коалиции. По словам британского премьера, “коалиция сегодня даже еще крепче”.

**“Рейтер”.**

### Путин испытывает чувство вины за теракты в США



*Президент России Владимир Путин.*

“Когда я видел, как рушатся башни-близнецы Всемирного торгового центра, первое, что я испытал — было чувство гнева, а затем — чувство вины”, — заявил президент России Владимир Путин в интервью американскому телеканалу ABC. “Это может казаться странным, но я действительно испытывал чувство вины за то, что спецслужбы России и США не смогли предотвратить эти теракты. Это произошло в свою очередь из-за того, что они не работали в более тесном сотрудничестве. Хотя я не знаю, была ли возможность предупредить удары террористов”, — подчеркнул он. Между тем Путин не сказал, располагали ли российские спецслужбы какой-либо информацией о терактах 11 сентября.

### Эмоциональные бараны

Согласно последним научным исследованиям, бараны могут оказаться не столь глупы, как их принято представлять. Подобные данные опубликованы в выпуске журнала Nature. Известно, что исследование проводилось ученым кембриджского института имени Бабрахама. В “опытах” приняли участие 20 животных. Каждому из них были представлены изображения десятков голов баранов. Подобные действия повторялись в течение шести недель. И по их результатам можно сделать вывод, что животные выработали определенные критерии дискриминации, основанные на распознавании некоторых черт головы баранов.

Вслед за этим была измерена активность части головного мозга животного, ответственной за визуальное распознавание. После этого ученые заключили, что баран может различать и запоминать до 50 других животных своего вида. Память же барана сохраняется в течение 800 дней. Также предполагается, что бараны способны запоминать человеческие лица.

**“Франс-Пресс”.**

